**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 44 (812) 29 кастрычніка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**






**Глыбоцкая парафіяльная філія арганізацыі “Caritas” арганізавала мерапрыемства “Мы разам!”. У ім прынялі ўдзел асобы з псіхічнымі і фізічнымі захворваннямі, іх бацькі ды апекуны.** *Фота: catholicnews.by*



## Жыхара Глыбоцкага раёна, які хаваўся ад міліцыі ў Расіі, экстрадавалі ў Беларусь

**Дзякуючы ўзаемадзеянню супрацоўнікаў Глыбоцкага РАУС і расійскіх калегаў было ўсталявана, што неаднаразова асуджаны за маёмасныя злачынствы жыхар Глыбоцкага раёна 1991 года нараджэння на працягу года хаваўся ў Маскве, там жа неафіцыйна працаваў. 15 кастрычніка яго перадалі праваахоўным органам Беларусі.**

Як растлумачыў журналісту старэйшы оперупаўнаважаны групы разыскной працы аддзялення крымінальнага вышуку Глыбоцкага РАУС Васіль Арлоў, у студзені 2014 года разам са змоўшчыкам мужчына выкраў у мясцовага жыхара будаўнічыя прылады і схаваўся.

18 красавіка бягучага года яго затрымалі на тэрыторыі Расіі і ўзялі пад варту да рашэння пытання пра яго экстрадыцыю ў Беларусь кампетэнтнымі органамі дзвюх краін, - растлумачыў прадстаўнік РАУС.

15 кастрычніка мужчыну перадалі беларускім праваахоўнікам. У адносінах да яго аднаўлена крымінальная справа па частцы другога артыкула 205 Крымінальнага кодэкса Беларусі «Крадзеж, здзейснены групай асобаў», расследаванне якога працягнецца. Яго супольнік асуджаны.

Па інфармацыі Васіля Арлова, яшчэ двое зламыснікаў таксама хаваліся на тэрыторыі Расіі. У наш час абодва затрыманыя. Вырашаецца пытанне пра іх экстрадыцыю ў Беларусь.

*Юлія Лахвіч.*

## МНС інфармуе
**на 27.10.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 702;
Гібель людзей – 73, з іх 3 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 27;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 589, 950 млн. руб.

ISSN 2077-8023



Докшыцкі раён

# Ад гаек да замежных рынкаў

■ Станіслаў Раманчук.

**У цяперашніх няпростых эканамічных умовах выжываюць толькі тыя вытворцы, якія займаюцца выпускам якаснай і запатрабаванай прадукцыі.**

У пераважна сельскагаспадарчым Докшыцкім раёне ўпэўнена сябе адчувае на рынку завод "Ветразь", размешчаны ў гарпасёлку Бягомль. Ён атрымаў быццам другое нараджэнне, калі 8 гадоў назад стаў адным з падраздзяленняў холдынга "Магілёўліфтмаш". Ад ранейшых прымітыўных гаек і балтоў завадчане перайшлі на выпуск ужо 16 найменняў розных металаштамповак, асвоілі вытворчасць асноўных самарэзаў, інавацыйных гроверных шайб. Іх завод пачаў выраблять першым у Беларусі, прадукцыяй зацікавілася Украіна. Для галоўнага завода ў гарпасёлку штомесяц цяпер выпускаюць да 100 км металарукавоў. Завадчане дасягнулі такога ўзроўню вытворчасці, што стала магчыма стварыць сумеснае прадпрыемства з вядомай у свеце італьянскай фірмай "VEGA SRL", якая вырабляе і пастаўляе вузлы для сучасных ліфтоў па ўсяму свету. Для замежнага брэнда ў беларускай глыбінцы таксама будуць вырабляцца неабходныя камплектуючыя для наступнага выпуска антывандалных ліфтавых панэляў з ЖК-экранам. Людзі рады такой перспектыве супрацоўніцтва з італьянцамі, бо вырастуць аб'ёмы вытворчасці і, адпаведна, заробкі. На гэтым у калектыве спыняцца не збіраюцца і спадзяюцца працаваць яшчэ з заказчыкамі ў Расіі. Мясцовы завод у стане пачаць выпуск і тых гаек і балтоў, якія пакуль не вырабляюць айчынныя метызныя заводы.

Браслаўскі раён

# А дамоў – без спіртнога

■ Кастусь Александровіч

**З кожным годам усё болей ускладняюцца для беларусаў нормы законаў пры перасячэнні дзяржаўнай граніцы з рознымі таварамі.**

Сёлета летам увогуле за незаконнае іх перамяшчэнне праз мытную граніцу Мытнага саюза ўвялі нават крымінальную адказнасць у выпадку паўторнага на працягу года парушэння, альбо фактаў кантрабанды. На ўчастку адказнасці аддзела пагранічнай службы "Опса", што ў Браслаўскім раёне, людзям у паганах стала працаваць яшчэ больш складана, бо сем яго падраздзяленняў размешчаны ўздоўж дзяржаўнай граніцы з Латвіяй і Літвой у населеных пунктах Каз'яны, Відзы, Плюсы, Урбаны і іншых. Таксама ўзрасла і актыўнасць нелегальных мігрантаў, якія ўсё часцей спрабуюць тут перабрацца на прыбалтыйскую тэрыторыю і далей у Еўропу. З сярэдзіны восені на гэтым напрамку несці службу прыйдзецца яшчэ больш пільна, бо ўвялі забарону на ўвоз у Беларусь алкагольных напіткаў і нават піва праз пункты спрошчанага пропуску на дзяржаўнай граніцы ў багажы фізічных асоб. У азёрным краі мясцовых жыхароў прапускаюць да іх родных, для наведвання месцаў пахавання блізкіх і з культурнымі мэтамі ў пэўныя тэрміны і дні ў трох пунктах у напрамку латвійскіх Пiедруі, Каплавы і літоўскага мястэчка Тверачус. Аднак, цяпер туды і назад людзям перавозіць алкаголь будзе нельга. Праз іншыя пункты пропуску яшчэ можна ўвозіць да трох літраў моцных напояў, але ідуць размовы, што і гэтая норма неўзабаве будзе зменена.

Пастаўскі раён

# Што ўбачу, тое і краду

■ Чэслаў Якубовіч.

**Апошнім часам крымінагенная сітуацыя ў нашым рэгіёне істотна палепшылася, аднак, паўсюдна цяпер міліцыі дастаўляюць шмат праблем разнастайныя крадзяжы.**

Вось і ў Пастаўскім раёне рэдкі які дзень абыходзіцца, каб не фіксавалася падобнае здарэнне. Прыйшлося і дырэктару адной з гаспадарак звярнуцца ў райаддзел міліцыі з заявай аб тым, што ноччу з ахоўваемай пашы нехта ўкраў бычка коштам каля 7 млн. рублёў. Па гарачых слядах аператыўнікам удалося высветліць, што на злачынства рашыліся два работнікі гаспадаркі ва ўзросце 56 і 42 гадоў, супраць якіх узбуджана крымінальная справа. За суткі да гэтага вялікі стрэс перажыў і жыхар райцэнтра, які раніцай заўважыў, што некуды прапаў прыпаркаваны каля дома ягоны легкавы аўтамабіль "Seat-Toledo". Праўда, праз некалькі гадзін мужчына перажыў ужо аблягчэнне, бо машыну ў тэхнічна спраўным стане знайшлі ў лясным масіве паблізу трасы Полацк-Вільнюс і вярнулі ўладальніку. І ў гэтым выпадку супрацоўнікі крымінальнага вышуку дзейнічалі прафесійна і ўстанавілі, што на ўгон рашыліся двое няпаўналетніх маладых навучэнцаў мясцовага прафкаледжа 1999 і 2000 гадоў нараджэння. Яны пад покрывам цемры дзейнічалі, як у крымінальным баевіку: узламалі замок уваходных дзверэй салона, злучылі правады запальвання і завялі іншамарку. Машыну маладыя ўгоншчыкі спецыяльна адагналі ў гушчар, бо потым думалі яе прадаць па даступнай цане. Аднак, замест лёгкіх грошай абодвух чакае суд і, магчыма, паездка ўжо ў месцы пазбаўлення волі. Не ратуюць людзей з наступленнем восені і надзейныя замкі і запоры, бо злодзеі абакралі адзін з боксаў гаражнага кааператыва і некалькі дачных дамоў гараджан.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 29.10.15 | | | | Пятніца 30.10.15 | | | | Субота 31.10.15 | | | | Нядзеля 01.11.15 | | | | Пан. 02.11. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -4 | -2 | +3 | -1 | -3 | -2 | +3 | -1 | -3 | -1 | +2 | +2 | +3 | +3 | +4 | +4 | +4 | +6 | +7 |
| Ціск | 758 | 757 | 758 | 757 | 759 | 760 | 763 | 763 | 766 | 765 | 766 | 764 | 762 | 758 | 756 | 754 | 755 | 752 | 753 |
| Вецер м/сек | 3 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю | 3 Ю | 2 Ю-В | 3 Ю-В | 3 Ю-В | 3 Ю-В | 2 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю-З | 4 Ю-З | 4 З | 5 Ю-З | 4 З | 4 З | 3 З | 4 З | 4 З |
| Вільготнасць | 95 | 88 | 55 | 85 | 95 | 95 | 74 | 97 | 99 | 97 | 93 | 95 | 98 | 95 | 90 | 94 | 98 | 97 | 93 |

# Аб самым надзённым

## ПРЫСУДЖЭННЕ НОБЕЛЕЎСКАЙ ПРЭМІІ ПА ЛІТАРАТУРЫ СВЯТЛАНЕ АЛЕКСІЕВІЧ СТАНЕ НАЗАЎЖДЫ ВЕКАПОМНАЙ ПАДЗЕЯЙ У ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Калі яшчэ нядаўна афіцыйныя ўлады нашай краіны былі не вельмі задаволены поглядамі і выказваннямі Святланы, то цяпер яны яе віншуюць, а асобныя творы будуць уключаны ў школьныя праграмы па літаратуры.**

Адразу некалькі значных падзей у Беларусі ў пачатку кастрычніка былі ў цэнтры ўвагі сусветных СМІ. Журналісты з 30 краін свету былі акрэдытаваны ў нас для асвятлення падзей нядаўніх прэзідэнцкіх выбараў. Гэта кампанія прайшла па прадказальнаму сцэнарыю, па даўно адпрацаванай да дробязяў схеме падліку галасоў. Нягледзячы на рэкордна нізкія начныя тэмпературы паветра, пры дапамозе адміністрацыйнага рэсурса, беларусы зноў "вызначыліся" вельмі высокай яўкай яшчэ на датэрміновае галасаванне.

Аднак, калі з выбарамі даўно многае было прадвызначана, то як гром з яснага неба прагучала нечаканая заява А. Лукашэнкі 6 кастрычніка на сустрэчы з выбаршчыкамі Мінскага раёна. Беларускі лідар узяў і адмовіў свайму расійскаму калегу У. Пуціну ў размяшчэнні на беларускай зямлі новай расійскай ваеннай базы з 24 сучасных баявых самалётаў. Сенсацыйна прагучалі словы з вуснаў нязменнага кіраўніка Беларусі: "Я наблюдаю вопли оппозиции по поводу размещения российской авиабазы на территории Беларуси. Создание авиабазы никогда не обсуждалось, я ничего об этом не знаю, она нам не нужна".

Пагадзіцеся, што гучыць вельмі катэгарычна, хоць на самой справе яшчэ вясной 2013 года прайшлі ў Мінску адпаведныя перамовы, пра што і паведаміў упершыню расійскі міністр абароны Сяргей Шайгу. З таго часу многа вады выцекла, але ж майстэрства спрактыкаванага палітыка, да якіх безумоўна адносіцца і кіраўнік нашай сінявокай рэспублікі, заўсёды гаварыць тое, што грамадства жадае пачуць у пэўнай сітуацыі. За гэта важнейшае пытанне, бо яно прадвызначае лёс дзяржавы на многія дзесяцігоддзі ў будучым, яшчэ будзе ісці вялікі закулісны торг. Беларусі патрэбныя замежныя крэдыты, і Крэмль павінен расшчодрыцца, калі хоча размясціць свой авіяполк пад Бабруйскам.

Аднак, на мой погляд, самай значнай і нават векапомнай падзеяй гэтага года стала радасная вестка аб прысуджэнні першай для краіны Нобелеўскай прэміі беларускай пісьменніцы і журналістцы Святлане Алексіевіч. Адзін з вядомых маладых айчынных літаратараў Віктар Марціновіч трапна заўважыў, што менавіта гэты аўтар з унікальным творчым метадам стаў … пераможцам на прайшоўшых выбарах. Напэўна, сказаў шчыра і афіцыйны беларускі лідар, што ён рады за Святлану, знаёмы з яе нармальнымі творамі, чытаў многія яе выказванні і нічога не мае супраць грамадзянскай пазіцыі.

Вось толькі чамусьці ў Беларусі яе сусветна вядомыя творы, напісаныя на рускай мове, не друкаваліся зусім у дзяржаўных выдавецтвах з 1993 года. Увогуле шлях большасці знакамітых твораў да чытача быў няпростым. Першую сваю дакументальную кнігу-споведзь, дакумент эпохі "У войны не женское лицо" яна напісала ў далёкім 1983 годзе і два гады яе не выдавалі, аўтара камуністычныя ідэолагі абвінавачвалі ў пацыфізме, натуралізме і развянчанні гераічнага вобраза савецкай жанчыны на вайне. Толькі калі пачалася перабудова, у Мінску выдавецтва "Мастацкая літаратура" выпусціла кнігу ў свет накладам 90 тысяч экзэмпляраў.

Прадмову да першай кнігі С. Алексіевіч напісаў яе творчы настаўнік Алесь Адамовіч і прароча прадказаў ёй бліскучае літаратурнае будучае і тое, што яна нагрузіла сваю душу цяжкім грузам пісаць праўду аб чужых чалавечых лёсах, прапускаць іх праз сваё сэрца. І вось зараз эмацыйную сілу памяці, жывых падзей, таленавіта даследваных і апісаных беларускай пісьменніцай, якая нарадзілася на Украіне, а піша па-руску, ацаніў увесь свет. Калі яшчэ нядаўна афіцыйныя ўлады нашай краіны былі не вельмі задаволены поглядамі і выказваннямі Святланы, то цяпер яны яе віншуюць, а асобныя творы будуць уключаны ў школьныя праграмы па літаратуры.

Разам з тым гэта падзея стварыла для нязменнага кіраўніка краіны і даволі непрыемную сітуацыю. Справа ў тым, што з асноўнымі дэмакратычнымі і празаходнімі поглядамі С. Алексіевіч ён ідэйна не згодны і прывык кіраваць, кантраляваць і такі пласт жыцця, як культуру, мастацкую літаратуру. На адной з даўніх нямногіх сустрэч з беларускімі пісьменнікамі А. Лукашэнка крытыкаваў гэту пісьменніцу, што яна, маўляў, "няправільна" піша голую праўду, не адчувае трагедыю Чарнобыля, не прайшла дарогамі Афганістана. Па гэтай падставе кнігі новага лаўрэата Нобелеўскай літаратуры ў Беларусі не друкаваліся, аднак, вялікімі тыражамі разыходзіліся па свету, не вельмі паважліва ў нас адносіліся пры жыцці да яшчэ аднаго выдатнага пісьменніка Васіля Быкава.

Аднак зараз абстаноўка рэзка памянялася, хочаш-не хочаш, а трэба лічыцца з тым, што ў Беларусі жыве сусветна прызнаны літаратар. Магчыма, цяпер і кнігі С. Алексіевіч пачнуць, друкаваць і на радзіме, да іх вырасце цікавасць у людзей, а людзі пачнуць чытаць разумныя, прымушаючыя думаць творы. Пакуль жа выбары прайшлі, але перад краінай засталося шмат нявырашаных праблем і трэба моцна думаць кіраўніцтву Беларусі і новаму ўраду, як выбрацца з цяжкай сітуацыі, каб яна, не дай Бог, яшчэ болей не пагоршылася.

## Дзень за днём

**Першую ў гісторыі Беларусі Нобелеўскую прэмію атрымае неўзабаве пісьменніца Святлана Алексіевіч. Цэнтрвыбаркам не чакаў, што столькі (6,4 %) выбаршчыкаў прагаласуюць супраць усіх кандыдатаў у прэзідэнты. Эксперты МВФ пагоршылі прагноз эканамічнага спаду для Беларусі да 3,6 %. У пачатку восені золатавалютныя рэзервы Беларусі выраслі на 54,2 млн. USD. З пачатку года колькасць свабодных вакансій для беспрацоўных скарацілася ў 2 разы. Адкрыты ўчастак вакол Мінска будучай МКАД-2 палепшыў рух для аўтобусаў рэспубліканскіх маршрутаў. У адну з начэй беларусы пабачылі зноў паўночнае ззянне, яны на трэць зменшылі восеннюю пакупкі валюты.**

# Важнейшыя навіны свету

**Галандыя.** СМІ краіны паведамілі, што ў целах забітых над Данецкам пасажыраў "Боінга" знайшлі аскепкі ад рускай ракеты "Бук", гэта доказ злачынства прарасійскіх сіл.

**Сірыя**. Акрамя расійскай авіяцыі 4 ваенныя караблі Каспійскай флатыліі РФ нанеслі ўдар крылатымі ракетамі па пазіцыях ісламістаў на адлегласці звыш 1500 км.

**Турцыя.** Прэзідэнт Р. Эрдаган папярэдзіў, што з-за авіяўдараў Расіі па Сірыі туркі могуць адмовіцца ад расійскага газу, будаўніцтва газаправода і АЭС па рускаму праекту.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка абвінаваціў У. Пуціна, што з-за эканамічных праблем унутры Расіі ён пачаў разбураць глабальны парадак бяспекі ў цывілізаваным свеце.

**Бельгія.** Кіраўніцтва ЕС хоча выслаць з Еўропы сотні тысяч нелагальных мігрантаў з такіх краін, як Нігер і Эрытрэя, 400 тысяч неграў і арабаў не атрымаюць права на прытулак.

**Бразілія.** Прэзідэнт Дзілма Русеф апынулася пад пагрозай імпічмента пасля рашэння федэральнага суда аб яе ўдзеле ў маніпуляцыях з дзяржаўнай казной.

**ЗША.** Кангрэс ЗША прыняў законапраект, які дазваляе пачаць пастаўкі навейшага супрацьтанкавага ўзбраення, мінамётаў, гранатамётаў, боепрыпасаў арміі Украіны.

**Украіна.** Главары так званых сепаратысцкіх "ЛНР" і "ДНР" пагадзіліся перанесці свае выбары з 1 лістапада і з 18 кастрычніка на наступны год пасля перамоў у Парыжы.

**Расія.** Адыёзны віцэ-спікер Дзярждумы РФ У. Жырыноўскі прапанаваў далучыць да Расіі тэрыторыі Польшчы з Фінляндыяй, якія быццам незаконна аддзяліліся ў 1917 годзе.

**Англія.** Міністр абароны Майкл Фалон пацвердзіў, што краіна далучыцца да Германіі і ЗША і адправіць свой абмежаваны ваенны кантынгент для абароны Прыбалтыкі ад Расіі.

**Літва.** Жыхары Беларусі, як заявіў глава МЗС Лінас Лінкявічус, баяцца перамен і таму так яны галасуюць на прэзідэнцкіх выбарах, хоць узровень іх жыцця мінімальны.

**Славакія.** Генсек НАТО Й. Столтэнберг паведаміў аб стварэнні новых штабоў альянсу тут і ў Венгрыі, свае Сілы хуткага рэагавання НАТО павялічвае да 40 тысяч ваенных.

**Расія.** Пры нізкіх цэнах на нафту, як заявіў міністр эканамічнага развіцця РФ А. Улюкаеў, расійская эканоміка пачне расці толькі з 2018 года, яшчэ больш года прадоўжыцца спад.

**Кітай.** На поўначы краіны аб'явілі жоўты ўзровень небяспекі з-за выхлапных газаў сотні тысяч машын, якія патрапілі ў гігантскую пробку на аўтатрасе на Пекін.

**Швейцарыя.** Камітэт па этыцы Міжнароднай федэрацыі футбола ФІФА часова адхіліў ад пасады главы арганізацыі Й. Блатэра, яго абвінавачваюць у карупцыі, дачы хабару.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Фінансавы эксперт В. Іасуб заявіў, што расійская эканоміка прадоўжыць падзенне і ў 2016 годзе, у лепшым выпадку стане стагніраваць, гэта дрэнна адаб'ецца і на Беларусі.

**Мінск.** Крайне непрыемным сюрпрызам для Крамля стала заява А. Лукашэнкі аб тым, што ён супраць размяшчэння расійскай ваеннай авіябазы на тэрыторыі Беларусі.

**Астравец.** Гендырэктар карпарацыі "Расатам" С. Кірыенка паабяцаў, што Беларуская АЭС будзе самай бяспечнай і самай сучаснай атамнай станцыяй пакалення 3+.

**Мінск.** Вядомы эканаміст Л. Злотнікаў папярэдзіў, што пасля выбараў ажыўлення эканомікі не будзе, бо ўжо палова прадпрыемстваў стратныя, вырастуць розничныя цэны.

**Маладзечна**. На завод металаканструкцый, дзе летам былі стыхійныя забастоўкі рабочых з-за затрымак зарплаты, прыслалі са сталіцы новага гендырэктара А. Месніка.

**Мінск.** Экс-кандыдат у прэзідэнты Я. Раманчук заявіў, што рэсурсы развіцця айчыннай эканомікі за 20 гадоў ужо вычарпаны, цяпер патрэбны зусім іншыя падыходы.

**Баранавічы.** Журналіст з Францыі Б. Кенель пабываў у горадзе і заявіў, што людзі адчуваюць тупік і ўсведамляюць неабходнасць перамен, але не ведаюць менавіта якіх.

**Гомель.** Суд пакараў 6 гадамі турмы 54-гадовага аўтаслесара, які п'яны выкраў чужы аўтамабіль з рамонту, наехаў на маладога вадзіцеля мапеда і зрабіў яго інвалідам 1 групы.

**Гродна.** Вядомая танцорка тверка О. Лета паведаміла аб адкрыцці неўзабаве ў горадзе школы эратычнага танца, свае ягадзіцы яна застрахавала на 25 тысяч долараў.

**Мінск.** Глухое раздражненне ў Расіі выклікалі словы лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры С. Алексіевіч, якая назвала ў чарговы раз анексію Крыма акупацыяй.

**Бабруйск.** Дзве жанчыны сталі патрабаваць ад кафэ "Дольчэ віта" грашовай кампенсацыі за моцныя апёкі цела, атрыманыя падчас святкавання 20-гадовага юбілею дачкі.

**Мінск.** Падчас візіту на МАЗ глава КПРФ Г. Зюганаў абвінаваціў ЗША ў развязванні вайны ў Сірыі і на Украіне, у развале СССР і заклікаў зноў жыць у адной дзяржаве.

**Баранавічы.** За злоснае хуліганства атрымаў 3 гады калоніі строгага рэжыму 33-гадовы беспрацоўны, які п'яны пасля пройгрышу ў карты прайшоўся голым па гораду.

**Мінск.** Лідар зборнай Беларусі па плаванню А. Герасіменязноўпацвердзіла, што ёй даражэй гістарычны бел-чырвона-белы сцяг, герб "Пагоня", чым афіцыйная сімволіка.

## У Беларусі прынятыя дадатковыя меры для своечасовага разліку за энергарэсурсы




■ БЕЛТА

**У Беларусі прыняты дадатковыя меры для своечасовага разліку за энергарэсурсы. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў №881 ад 21 кастрычніка 2015 года, якая апублікавана сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БЕЛТА.**

Дакументам уносяцца змяненні ў палажэнне аб парадку абмежавання або спынення падачы прыроднага газу, электрычнай і цеплавой энергіі спажыўцам, якія не забяспечылі своечасовую іх аплату. У прыватнасці, устаноўлена, што патрабаванні палажэння аб абмежаванні або спыненні падачы энергарэсурсаў не распаўсюджваюцца на арганізацыі аховы здароўя і адукацыі, установы сацыяльнага абслугоўвання, суды агульнай юрысдыкцыі, арганізацыі, падначаленыя Мінабароны, МУС, Дзяржпагранкамітэту, ДМК. Калі аплата за энергарэсурсы не паступіла па заканчэнні вызначанага тэрміну, газа-і энергазабеспячальным арганізацыям ўводзяць рэжым абмежавання падачы энергарэсурсаў альбо спыняюць іх падачу, змяняючы ў аднабаковым парадку дагаворныя велічыні спажывання энергарэсурсаў. Пры звароце з хадайніцтвам аб адтэрміноўцы абмежавання або спынення падачы энергарэсурсаў кіраўнікі дзяржорганаў, іх намеснікі нясуць персанальную адказнасць за прынятыя абавязацельствы па аплаце энергарэсурсаў. Згодна з пастановай, з 1 студзеня 2016 г. спажывец плаціць за энергарэсурсы, спажытыя больш чым на 5% звыш аб'ёмаў, зменeных газа-і энергазабеспячальнымі арганізацыямі ў аднабаковым парадку адносна дамоўных велічынь спажывання энергарэсурсаў і пацверджаных паказаннямі лічыльнікаў, з ужываннем павышаючага каэфіцыента 1,5 да тарыфаў на электрычную і цеплавую энергію і цэнах на прыродны газ. У дакуменце таксама выкладзены пералік спажыўцоў, абмежаванне або спыненне падачы энергарэсурсаў якім выдзяляецца з улікам рашэння рэспубліканскай камісіі па кантролі за ажыццяўленнем разлікаў за прыродны газ, электрычную і цеплавую энергію.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля ліквідацыі сёлетa прадпрыемстваў, арганізацый і адсутнасці месц для працаўладкавання 166 жыхарам вобласці датэрмінова прызначылі пенсіі па ўзросту.

**Глыбокае.** Мясцовы МКК на міжнароднай выставе "WorldFood-2015" у Маскве заключыў шэраг новых кантрактаў на пастаўкі прадукцыі ў РФ, вырасце экспарт і на Далёкі Усход.

**Бешанковічы.** Жыхары беднага раёна сталі самымі "свядомымі" на выбарах, далі амаль стопрацэнтную яўку (99,2%) і найбольш падтрымалі главу краіны (96,09 % галасоў).

**Паставы.** Прыватны мэблевы цэнтр А. Бабічава пачаў узвядзенне новага сучаснага завода па выпуску трохслойнай паркетнай дошкі, запуск яго 1-й чаргі ў 4-м квартале 2016 г.

**Верхнядзвінск.** На пункце пропуску "Грыгароўшчына" пагранічнікі затрымалі 44-гадовага рускага, які ўехаў у краіну на аўто з Латвіі, ён знаходзіўся ў міжнародным вышуку.

**Мёры.** Да 45 сутак павялічыліся тэрміны рэалізацыі мясных паўфабрыкатаў мясцовага мясакамбіната пасля здачы ў эксплуатацыю сучаснага цэха-халадзільніка на 500 тон.

**Глыбокае.** У аддаленай вёсцы Чарневічы ўрачыста адкрылі новы сельскі Дом культуры з бібліятэкай, тут з'явілася дзіцячая пляцоўка, раён атрымаў і новы школьны аўтобус.

**Наваполацк.** Суд пакараў двух непрацоўных жанчын з Полацка, маці і дачку 4 гадамі турмы з канфіскацыяй маёмасці за махлярства з буйнымі крэдытамі ў банках.

**Расоны.** Пасля капрамонту і мадэрнізацыі ў райбальніцы адкрылі інфекцыйнае аддзяленне, абнавіўся яе галоўны корпус, побач з ЦРБ асвяцілі капліцу для вернікаў.

**Ушачы.** Ужо на 24 млрд. рублёў выканалі работ па абнаўленню і рэстаўрацыі мемарыяльнага комплекса "Прарыў", алесродкаў мала, збіраюцца ахвераванні.

**Сянно.** Падчас збору грыбоў у лясным масіве ля вёскі Аўсішча мужчына знайшоў цэлы арсенал боепрыпасаў часоў II Сусветнай вайны: 519 снарадаў і ўзрывальнікаў да іх.

**Віцебск.** Пасля вельмі цёплых выхадных арктычнае паветра прынесла ў абласны цэнтр раптоўнае рэзкае пахаладанне, абнавіўся абсалютны рэкорд маразоў для кастрычніка.

**Шуміліна.** Пасля рэканструкцыі коштам 4 млрд. рублёў у раённым цэнтры зноў запрацавала цэнтральная аптэка № 40 з санвузлом і пакоем для персаналу з 15 фармацэўтаў.

**Варапаева.** Пасля рэканструкцыі ў гарпасёлку адкрыўся абноўлены парк, за сродкі ЕС - 40 тысяч еўра ўстанавілі 10 прыгожых лавак, набылі спецтэхніку для яго абслугоўвання.

**Віцебск.** Мясцовы рэстаран "Зялёна гура" побач з перадвыбарным плакатам А. Лукашэнкі размясціў рэкламу па абслугоўванні памінальнай вячэры са зніжкамі.

**Гарадок.** Спорткомплекс райцэнтра з сучаснай лыжаролернай трасай атрымаў заявак на правядзенне вучэбна-трэніровачных збораў каманд Беларусі і Расіі на цэлы год наперад.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**І.С.Валынец,**
*пракурор Глыбоцкага раёна, дарадчык юстыцыі.*

Пракуратура Глыбоцкага раёна – аб адказнасці за гвалт у сям'ї

# У кожным выпадку аргументам яе правасці служыў кухонны нож

**Не жанчына, а – монстр! Пяць разоў калечыла нажом свайго сужыцеля. Чатыры разы знаходзілася за кратамі! І ізноў, у пяты раз, адправілася ў вязніцу!**



Следча-судовая практыка сведчыць, што не заўсёды ў тых сем'ях, дзе "мілыя лаюцца", пануюць мір і згода. Часцяком блізкія сваякі, якія пражываюць сумесна, і самі не заўважаюць, як дробныя сямейныя сваркі праз некаторы час перарастаюць ва ўзаемныя скандалы з рукапрыкладствам, а, часам, і ў забойства. Прычыны сямейных разладаў, як правіла, звязаныя са злоўжываннем кімсьці з бакоў спіртнымі напоямі, пачуццём рэўнасці, матэрыяльнымі цяжкасцямі і г.д.

Варта адзначыць, што заканадаўствам у мэтах прафілактыкі здзяйснення больш цяжкіх злачынстваў супраць жыцця і здароўя грамадзян на сямейна-бытавой глебе прадугледжаны шэраг папераджальных (прэвентыўных) мер у стаўленні сямейных скандалістаў. Гэта першым чынам – прыцягненне іх да адміністрацыйнай і крымінальнай адказнасці за нанясенне збіцця ці прычыненне цялесных пашкоджанняў, пагрозу забойствам ці катаванне, абмежаванне кагосьці з паўналетніх чальцоў сям'і ў дзеяздольнасці ці накіраванне хранічных алкаголікаў у ЛПП, а таксама вынясенне ў стаўленні сямейнага дэбашыра ахоўнага прадпісання. Хацелася б адзначыць, што ахоўнае прадпісанне прадугледжвае забарону для асобы, схільнай да сямейных скандалаў, на працягу вызначанага часу пражываць са сваёй сям'ёй, а таксама ўскладае на яго шэраг іншых абмежаванняў, за парушэнне якіх прадугледжваецца адміністрацыйны арышт.

Галоўнае ў дадзенай сітуацыі асобе, якая пакутуе ад гвалту ў сям'і, не баючыся і не саромеючыся агалоскі своечасова звярнуцца за дапамогай у праваахоўныя ці выканаўча-распарадчыя органы. Няслушнае меркаванне, якое існуе, што калі няма слядоў гвалту і сведак супрацьпраўных паводзін, то і нельга прыцягнуць вінаватага да адказнасці, абвяргаецца шэрагам адміністрацыйных і крымінальных спраў, разгледжаных судом раёна. Толькі сёлета да адміністрацыйнай адказнасці менавіта за сямейны гвалт прыцягнута 110 асобаў, з якіх толькі пракурорам раёна прыцягнута да адказнасці 16 грамадзян. Да крымінальнай адказнасці прыцягнута 9 чалавек, з якіх 5 – за пагрозу забойствам, 3 – за катаванне (сістэматычнае нанясенне збіцця) і 1 – за прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання, якое пацягнула кароткачасовы разлад здароўя.

Аналіз адміністрацыйных і крымінальных спраў аналізаванай катэгорыі паказаў, што пераважная большасць з іх здзейснены вінаватымі, якія знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення.

Паказальным прыкладам з негатыўнага боку можа служыць крымінальная справа па абвінавачванні ў здзяйсненні цяжкага злачынства жыхаркі Псуеўскага сельвыканкама Галецкай Т.Г., якая на працягу шматлікіх гадоў жыве сумесна з Лянтовічам Г.В. Характэрны той факт, што абодва схільныя да злоўжывання спіртнымі напоямі, а сама Галецкая Т.Г. да таго ж, пакутуе на хранічны алкагалізм. Гэта акалічнасць і служыла асноўнай прычынай, па якой паміж сужыцелямі перыядычна ўзнікалі скандалы, найвялікшую агрэсіўнасць у якіх выяўляла менавіта гаспадыня. У кожным выпадку аргументам яе правасці служыў кухонны нож, які Галецкая Т.Г. пускала ў ход, не задумваючыся пра наступствы.

У гэтай сувязі яна за замах на забойства Лянтовіча Г.В. была асуджаная ў 1993 годзе да 5 гадоў пазбаўлення волі, у 1996 г. – да 4 гадоў пазбаўлення волі за прычыненне гэтаму ж чалавеку нажом цяжкага цялеснага пашкоджання небяспечнага для жыцця. У 2010 г. яна нажом прычыніла сужыцелю лёгкае цялеснае пашкоджанне, якое пацягнула кароткачасовы разлад здароўя, за гэта была ізаляваная ад грамадства на 2 месяцы. І нарэшце, год назад, ізноў жа за ўжыванне нажа ў стаўленні Лянтовіча Г.В., адправілася ў месцы пазбаўлення волі на 3 месяцы.

Здавалася б, з узростам трэба спыніцца, але не прайшло і паўгода пасля вызвалення, чарговая п'яная сварка і нож у руцэ. У выніку пацярпелага атрымалася выратаваць медыкам, а Галецкая Т.Г. у чарговы раз "зарабіла" сабе працяглы тэрмін.

**Прыгаворам суда ад 09.10.2015 вінаватая асуджана да 5 гадоў пазбаўлення волі і з ужываннем да яе прымусовага лячэння ад алкагалізму.**

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што ні ў адным з вышэйпералічаных пяці выпадкаў сам пацярпелы не хацеў прыцягнення да адказнасці сужыцелькі, прабачаючы яе, хоць жывым кожны раз заставаўся толькі па чыстай выпадковасці. Зараз застаецца толькі меркаваць, ці паслужыць апошнім урокам для вінаватай гэта асуджанасць.

**Алесь Гай,**
*сталы чытач "ВГ", пенсіянер.*

# Як гаманіць паміж сабой – ніякіх праблем

## Як абараніць сябе ці якую грамадскую праблему – усе ў кусты!

**Наша газета ў якасці грамадскага абмеркавання можа апублікаваць матэрыялы аўтараў, пазіцыя якіх разыходзіцца з пазіцыяй рэдакцыі.**

**Так, напрыклад, мы лічым, што дэпутаты абіраюцца не для таго, каб заасфальтаваць пэўную вуліцу, пасадзіць парк, пабудаваць камусьці жыллё, пракласці каналізацыю ці вадаправод. Асноўны абавязак дэпутатаў – стварэнне і прыняцце законаў. Добра, калі дэпутаты маюць магчымасць лабіраваць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў. Аднак, перадусім, гэта – не абавязак.**

**Зрэшты, і Алесь Гай, звяртаецца да свайго дэпутата "пралабіраваць" інтарэсы жыхароў вуліц Міра і Маладзёжнай.**

*Рэдакцыя "ВГ".*



**Вуліца Маладзёжная ў Глыбокім засталася без тратуараў.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Тэмай для гэтага артыкула паслужыла выпадковая сустрэча са знаёмымі з вуліц Міра і Маладзёжнай.**

*– Ці ведаеш ты, Алесь, колькі гадоў нашым вуліцам?*

– Так, прыблізна ведаю, - адказаў я. Ужо амаль 50 гадоў.

*– А ці ведаеш, дзе наша глыбоцкая Рублёўка?*

– Я думаю, усе глыбачане ведаюць. Гэта вуліцы Сонечная, Радужная, Палацкая, Сабалеўскага, - зноў адказаў я.

*– А ці бачыш ты, якая розніца паміж гэтымі вуліцамі? – Тут я прамаўчаў.*

*– Вось пішаш ты ў "Вольнае Глыбокае" свае крытычныя артыкулы, а карысці ад іх ніякай. – Я ўжо тут разззлаваўся і выказаў сваю думку.*

– Чаму ніякай? Многім чытачам і жыхарам горада і раёна адкрываю вочы на нейкія падзеі і факты.

*– Вось вазьмі і напішы ў "ВГ" пра нашы вуліцы Міра і Маладзёжнай.*

– А што пісаць? – пытаю. Дык давайце калектыўна напішам і кожны паставіць свой допіс пад пісьмом.

*– Хочаш, пішы адзін, мы свае подпісы ставіць не будзем.*

Цікавы час настаў. Як гаманіць паміж сабой – ніякіх праблем. Як абараніць сябе ці якую грамадскую праблему – усе ў кусты.

Бяру гэтую смеласць на сябе і пішу ў "ВГ" праблему вуліц Міра і Маладзёжнай.

Сапраўды, мікраараёну гэтых вуліц 50 гадоў. А справа вось у чым, 50 гадоў і нябачна, што гэта вуліцы. Ні на адной з гэтых вуліц няма тратуараў, няма абазначаных пешаходных пераходаў, няма аўтобусных прыпынкаў з навесам. Некалькі дамоў газіфікаваны прыродным газам. Астатнія двухпавярховыя дамы з газам у балонах. Соромна глядзець на гэтыя скрынкі пад балоны. У кожнага гаспадара пафарбаваныя на свой лад. У каго на адзін балон, у каго на два балоны. У каго ў добрым стане гэтыя скрыні, у каго ўжо хутка развальяцца. І сапраўды, няўжо за 50 гадоў нельга ўлажыць тратуары? Няўжо нельга газіфікаваць мікраараён вуліц Міра і Маладзёжнай. У канцы ўжо сам задаю пытанне: "А чаму Вы не звяртаецеся з гэтым пытаннем да свайго дэпутата? У Вас ужо два тэрміны запар выбіраецца дэпутатам Казак В.Н." Вось які атрымаў адказ: "Ты што, Алесь, з Луны зваліўся, ці ты з гумарам. Ты ведаеш, дзе жыве наш дэпутат? У яго ўсё: і газ, і тратуары, і пешаходныя пераходы, і знакі па ўсёй вуліцы. Яму праблема да нас? Смешна гаварыць."

Не пашкадаваў я свайго ўласнага часу і прайшоў па вуліцы, дзе пражывае дэпутат Казак В.Н. Прайшоў па вуліцы Радужнай, Сонечнай, Сабалеўскага, Полацкай. Як кажуць, як неба ад зямлі адрозніваецца, так адрозніваецца мікраараён вуліц Міра і Маладзёжнай ад глыбоцкай Рублёўкі. Усюды абазначаныя пешаходныя пераходы, тратуары, люба паглядзець. Поўнасцю газіфікаваныя прыродным газам.

Згодзен з жыхарамі гэтых вуліц поўнасцю. Здзіўляе тое, што зараз ніхто з чыноўнікаў ці кіраўніцтва раёна не пражывае ў гэтым мікраараёне.

Раней як гаварылася: улада для народа і бліжэй да народа. А зараз усё наадварот. А зараз уся ўлада чым далей ад народа, тым лепей для ўлады.

Дык я да Вас звяртаюся, паважаны дэпутат Казак В.Н. гэтага выбарчага ўчастка, праявіце сваю ініцыятыву. Дапамажыце жыхарам вуліц Міра, Маладзёжнай уладкаваць тратуары, газіфікаваць мікраараён. На маю думку, сорамна, калі выбаршчыкі не звяртаюцца да свайго дэпутата. І за два тэрміны свайго прабывання дэпутатам хоць што-небудзь зрабіце для сваіх выбаршчыкаў.

Калі "ВГ" надрукуе гэты артыкул, гэта і будзе зваротам да Вас, як да дэпутата. І калі сапраўды, як кажуць, справа скранецца з мёртвай кропкі, на трэці тэрмін за вас прагаласуюць.






**Вуліца Радужная. У гэтым кадр, пры большым набліжэнні, трапляе аж 10 знакаў – "пешаходны пераход". Усіх жа знакаў пад два дзясяткі. Няма пытанняў да ўстаноўкі знакаў... Ёсць толькі пытанне кошту! Ці трэба было ўсталёўваць такія дарагія знакі на незабудаванай тэрыторыі, дзе сёння няма ніякіх пешаходаў? Ці не лепш бы іх паставіць у цэнтры горада, дзе інтэнсіўны рух транспарту?** *Фота Ул. Скрабатуна.*

# Пастаўскія сыры ў Сібіры на ўра

**Амаль пяць сутак правесці ў дарозе і пераадолець 4,5 тысячы кіламетраў давялося вадзіцелям малаказавода, каб трапіць у Новасібірск на кірмаш-продаж беларускіх тавараў. І пры гэтым дамоў вярнуліся з масай прыемных уражанняў.**

Арганізатарамі кірмашу-продажу, які праходзіў з 1 па 11 кастрычніка ўключна, выступілі Белкаапсаюз, аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам, беларускія міністэрствы, канцэрны, іншыя структуры пры садзейнічанні аддзялення Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі ў Новасібірску. Аўтамабіль з 15 тонамі сыроў з Пастаў туды адправіўся загадзя, 27 верасня. Прадстаўнікі прадпрыемства, а гэта першы намеснік дырэктара ААТ "Пастаўскі малочны завод" Васіль Уладзіміравіч Катовіч і таваразнаўца Валянціна Мар'янаўна Хаткевіч, самалётам вылецелі пазней.



— У першыя дні ладзіліся бізнас-сустрэчы і індывідуальныя перамовы прадстаўнікоў беларускага боку з дзелавымі коламі Сібірскай Федэральнай акругі для садзейнічання правядзенню кірмашу-продажу і выпрацоўкі сістэмы гандлю ў рэгіёне на перспектыву, – дзяліўся падчас размовы В. У. Катовіч. – Прайшла дэгустацыя прывезенай прадукцыі, а потым яе сталі прадаваць. Для гандлю выдзелілі месца на плошчы Леніна, і гэта для беларусаў зрабілі ў парадку выключэння. Быў прадстаўлены шырокі асартымент тавараў беларускіх вытворцаў. Мы вазілі 7 сартоў сыру: "Каралеўскі", "Беларускае золата", "Маздамер", "Пармезан Гранд", "Груер", "Галандскі" і "Расійскі". Два апошнія расіянам добра вядомыя, упадабалі яны і ўсе іншыя. На пробу звычайна куплялі па 200-300 грамаў, а потым вярталіся і бралі цэлыя кілаграмы. Сыры ішлі на ўра, за імі выстрайваліся чэргі, тавар хвалілі за яго якасць. Людзі прасілі адкрыць у горадзе нашы магазіны, а напярэдадні Новага года яшчэ раз парадаваць пастаўскай прадукцыяй.

Дарэчы, частку сыроў, нерэалізаваных падчас кірмашу-продажу, прадстаўнікі малаказавода пакінулі фірме таварыства з абмежаванай адказнасцю «Рытэйлімпарт Сібір». Па заключанай дамоўленасці ў далейшым яна будзе гандляваць пастаўскімі сырамі ў Новасібірску.

Расказаў Васіль Уладзіміравіч і пра адносіны сібіракоў да беларусаў. Жыхары паўтараміл ьённага горада наведвалі кірмаш, а заўважыўшы нашу палатку і машыну з лагатыпам "Паставы-гарадок", ахвотна падыходзілі, заводзілі гаворку, знаёміліся.

*Галіна ПІШЧ.*

# У Пастаўскім раёне два кузэны і іх сябар абкрадалі крамы і абрабавалі бабульку

**Упраўленне СК па вобласці расследавала крымінальную справу ў стаўленні членаў злачыннай групы, якія здзейснілі серыю крадзяжоў і разбойны напад у Пастаўскім раёне, паведаміла афіцыйны прадстаўнік ведамства Іна Гарбачова.**

У сакавіку 2014 года трое невядомых, хаваючы твары маскамі, выставілі шкло ў аконнай раме і пракраліся ў хату 85-гадовай жыхаркі Пастаўскага раёна, збілі яе, выкралі назапашанні і схаваліся. Састарэлая жанчына не змагла апісаць тых, хто нападаў, таму ўсталяваць іх па гарачых слядах было немагчыма.

На тэрыторыі гэтага ж раёна неўзабаве зарэгістравалі серыю крадзяжоў з сельскіх крам. З дапамогай спецыяльных прыстасаванняў невядомыя паракусвалі правады, якія забяспечваюць працу сігналізацыі, і адціскалі ўваходныя дзверы. Затым выкрадалі прадукты і выручку ў касе. Паведамленні пра крадзяжы паступалі ў міліцыю раніцай, калі прадаўцы прыходзілі на працу.

Следчыя выказалі версію пра тое, што серыю крадзяжоў і разбойны напад на састарэлую жанчыну здзейснілі адны і тыя ж людзі. Па падазрэнні ў здзяйсненні злачынстваў затрымалі 22-гадовага і 27-гадовага стрыечных братоў, жыхароў Пастаўскага раёна, і іх 28-гадовага знаёмага. Усе трое не былі судзімыя. Абвінавачаныя растлумачылі, што вырашылі зарабіць такім спосабам грошай.

Дзеянні мужчын кваліфікаваны па прыкметах ч.2 арт.205 (Крадзёж, здзейснены групай асобаў), ч.2 арт.207 (Разбой, здзейснены з пранікненнем у жыллё групай асобаў) КК.

Справа перададзена пракурору для накіравання ў суд.

*Tut.by*




# Глыбоцкая парафіяльная філія арганізацыі "Caritas" арганізавала мерапрыемства "Мы разам!"

**У ім прынялі ўдзел асобы з псіхічнымі і фізічнымі захворваннямі, іх бацькі ды апекуны.**

Акцыя адбылася 24 кастрычніка. У ёй удзельнічалі больш за дзве сотні асоб. Як паведамляе сайт catholicnews.by, удзельнікі спаткання сабраліся ў касцёле Святой Тройцы. Пробашч парафіі ксёндз Мікалай Ціхановіч прывітаў гасцей, якія прыбылі на мерапрыемства не толькі з Глыбокага, але і з Мёраў, Паставаў, Лепеля, Ушачаў, Віцебска, Браслава, Шаркоўшчыны, Верхнядзвінскага раёна.

Потым удзельнікі імпрэзы прайшлі шэсцем ад касцёла да Гарадскога дома культуры. У доме культуры гасцей пачаставалі, а потым пачалася забаўляльная праграма. Удзельнікаў чакалі разнастайныя гульні, конкурсы і танцы.

На другім паверсе дома культуры быў арганізаваны круглы стол. У ім прынялі ўдзел бацькі, апекуны асобаў з абмежаванымі магчымасцямі, сацыяльныя работнікі і святары.

*Фота: catholicnews.by*

# Падаткавікі Віцебскай вобласці выявілі 45 прадпрымальніцкіх структур з зарплатай у канвертах

**Падатковыя органы Віцебскай вобласці за студзень-верасень бягучага года выявілі 45 суб'ектаў прадпрымальніцкай дзейнасці, якія выплацілі заработную плату без адлюстравання ў рэгістрах бухгалтарскага ўліку. Пра гэта БелТА паведамілі ў прэс-цэнтры інспекцыі МНС па Віцебскай вобласці.**

У Віцебскай вобласці за студзень-верасень выяўлена больш 50 прадпрымальнікаў, якія выплачваюць зарплату ў "канвертах"

Парушэнні выяўлены пры правядзенні кантрольных мерапрыемстваў. У бюджэт далічана больш Br442 млн, у тым ліку Br265,5 млн падаходнага падатку. Акрамя таго, усталявана 28 юрыдычных асоб, якія заработная плата налічалася, але не выплачвалася.

Уадносінах 208 кіраўнікоў, заснавальнікаў, іх блізкіх сваякоў, а таксама наёмных працаўнікоў арганізацый, якія выплачваюць заработную плату без адлюстравання на ўліку або ў нязначным памеры, праведзены супастаўленні панесеных выдаткаў атрыманым прыбыткам, па выніках якіх у 106 асобаў усталявана перавышэнне выдаткаў над прыбыткамі, у іх выпатрабаваны дэкларацыі аб прыбытках і маёмасці. У выніку праверак гэтых дэкларацый прад'яўлены падаходны падатак у суме Br476,8 млн.

*Алёна Ціханава - БЕЛТА*

# Кілбасы, сасіскі і вяндліны выклікаюць рак — афіцыйна пацверджана

**Спецыялісты Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ) і Міжнароднага агенцтва па вывучэнні рака прыйшлі да высновы: штодзённае спажыванне больш за 50 г перапрацаванага мяса — кілбас, сасісак або вяндліны — павышае рызыку ўзнікнення рака кішачніка на 18%, паведамляе Бі-бі-сі.**

Як сцвярджаюць даследчыкі, само мяса шкоды не нясе – канцэрагенным эфектам шкодны тыя рэчывы, якія выкарыстоўваюцца пры яго перапрацоўцы ў кілбасы. Аднак, нягледзячы на тое, што мяса цяпер стаіць у адным шэрагу з такімі канцэрагенамі, як тытунь ці алкаголь, ступень яго небяспекі значна ніжэйшая.

«Індывідуальная рызыка развіцця каларэктальнага раку з-за спажывання мясных прадуктаў застаецца даволі нізкай, але яна павышаецца з павелічэннем колькасці з'ядаемага перапрацаванага мяса», – каментуе спецыяліст СААЗ Курт Страйф.

Навукоўцы нагадваюць, што чырвонае мяса мае і карысныя ўласцівасці – яно багатае вітамінам В12, цынкам і жалезам.

*Бі-бі-сі*



# На 16 кастрычніка разгледжана пытанне аб ужыванні амністыі ў дачыненні да 7.208 асуджаных, што ўтрымліваюцца ў месцах пазбаўлення волі

**Паводле даных дэпартамента выканання пакаранняў МУС Беларусі, на 16 кастрычніка разгледжана пытанне аб ужыванні закона аб амністыі ў дачыненні да 7.208 асуджаных, якія знаходзяцца ў месцах пазбаўлення волі (усяго пад амністыю падпадае 7.655 чалавек).**

Начальнікамі папраўчых устаноў закрытага тыпу вынесеныя пастановы аб вызваленні ад далейшага адбывання пакарання 1.676 асуджаных, з якіх 66 – непаўналетнія. Прынята рашэнне аб скарачэнні тэрміну пакарання на адзін год у дачыненні да 1.871 чалавека. Адмоўлена ва ўжыванні амністыі 3.661 пазбаўленаму волі. Прычыны: наяўнасць іскаў, злосныя парушэнні парадку адбывання пакарання.

Падчас амністыі асобамі, якія адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі, пакрыты ўрон на больш як 6,3 млрд. рублёў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Неабходна быць уважлівым пры карыстанні электраэнергіяй

■ Бекіш А.А., *інспектар энергаінспекцыі Глыбоцкага МРА "Энерганагляду"*

**Электрычная энергія стала нашым добрым памочнікам у працы і ў быту. Цяпер без яе немагчыма абыйсціся.**

Асаблівае значэнне набываюць веды Правілаў бяспекі пры карыстанні электраэнергіяй. Невыкананне правілаў электрабяспекі прыводзіць да паражэння электратокам. Прайшоўшы праз цела чалавека, электрычны ток можа выклікаць апёкі, непрытомнасці, сударагі, спыненне дыхання і смерць.

Галоўная прычына няшчасных выпадкаў сярод дзяцей – свавольства і гарэзлівасць паблізу ліній электраперадачы і падстанцыі, дакрананне да абарваных правадоў, да аголеных токаводных частак штэпсельных разетак, электрапатронаў, выключальнікаў і электрапрыбораў, уключаных у сетку.

**28.01.15 г.** у в. Вулька-Арэя, Столінскага раёна, грамадзянін В. 1937 г.р вырашыў самавольна агледзець кантактныя злучэнні на франтоне жылога дома. Па прыстаўной лесвіцы падняўся да правадоў уводу ў дом і дакрануўся токаводных частак, якія знаходзіліся пад напругай, у выніку чаго быў смяротна траўмаваны электрычным токам.

Чалавек, крануўшы токаводных частак ці голых правадоў, якія знаходзяцца пад напругай, становіцца ўключаным у электрычны ланцуг, Пад уздзеяннем напругі праз яго цела пранікае электрычны ток. Ён парушае звычайную працу нервовай сістэмы, з-за чаго ўзнікаюць сударагі, спыняецца дыханне і спыняецца сэрца. Чым больш велічыня току, які праходзіць праз цела і час яго дзеяння, тым ён небяспечней. Вось чаму неабходна быць уважлівым пры карыстанні электраэнергіяй, строга выконваць правілы бяспекі, умець аказваць першую дапамогу пацярпеламу ад электратоку.

# Любяць жа шаркоўшчынскія браканьеры красці рыбу ў "Навінках"!

А.В. Протас, *начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Кастрычнік, сярэдзіна восені, надвор'е не ўстойлівае, то ідзе дождж, то свеціць сонца, а вось у супрацоўнікаў міжрайінспекцыі "надвор'е" з браканьерамі стабільнае, без зменаў. Штотыдзень нашы "галодныя" грамадзяне трапляюць у сеткі інспектараў, у лясах і на вадаёмах.**

Так, 22 кастрычніка 2015 года, інспектарамі на возеры Ціменец Пастаўскага раёна затрыманы мясцовы жыхар, які ўсталяваў сеткі на возеры, але як толькі выплыў на бераг, быў затрыманы. Затрыманы грамадзянін К. не стаў адмаўляць факт усталёўкі сетак, ды і бессэнсоўна гэта было рабіць, відэаздымка, праведзеная інспектарамі, цалкам выкрывала парушальніка. Матэрыялы накіраваны ў раённы суд.

25 кастрычніка 2015 года каля 7 гадзін раніцы супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі неўзаметку прыбыла на возера Карцэя, недалёка ад в. Шкунцікі Шаркоўшчынскага раёна, дзе па наяўнай інфармацыі мясцовы жыхар любіць палавіць рыбку сеткамі. Інспектарам доўга чакаць не прыйшлося, вось ужо чутны гук матацыкла, а вось і мужычок напампоўвае лодку, ні вуды, ні спінінга ў яго няма, усё зразумела, відавочна, ён прыехаў не на лодцы пакатацца. Яшчэ хвілін 20 назірання, мужчына на лодцы зняў сеткі і прыплыў на бераг, наўпрост у рукі інспектараў, у лодцы сеткі і дзве маленькія плотачкі. Толькі штраф на плотачак будзе не маленькі, а мінімум 20 базавых велічынь ці 3 млн. 600 тысяч рублёў.

Працягваюць мець месцы і іншыя факты парушэння природаахоўнага заканадаўства. Так, 20 кастрычніка 2015 года каля 17 гадзін працаўнікі ААТ "Рыбгас, Навінкі" Пастаўскага раёна праводзілі аблоў сажалак, выявілі на сажалцы старонняга чалавека, які нічога не саромеючыся, не зважаючы на працоўных, зайшоў на сажалку, з дапамогай пад'ёмнай сеткі вылавіў 25 кг. карпа. Працоўныя неадкладна паведамілі кіраўніцтву рыбгаса і інспектарам. Да прыезду інспектараў, працаўнікі рыбгаса спынілі незаконныя дзеянні грамадзяніна. Інспектарам, якія прыехалі па выкліку, засталося толькі аформіць адміністрацыйны пратакол, канфіскаваць сетку. Парушальніка, жыхара г.п. Шаркоўшчына, чакае раённы суд, а злоўленыя карпы вагой 25 кг. абыйдуцца ў кругленькую суму.

Яшчэ шмат працы ў інспектараў, яшчэ не мала ахвотнікаў пагуляць з законам у коткі-мышкі, толькі потым асобныя парушальнікі льюць кракадзілавыя слёзы, маўляў, не ведаў, не ведаў што дзею, прабачце мяне, калі ласка.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету просіць усіх грамадзян паведамляць пра ўсе парушэнні природаахоўнага заканадаўства на тэлефоны інспекцыі. "Тэлефон даверу" – кругласутачна: **8-02156- 2-86-70, 2-80-30, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Узровень пажарнай бяспекі праверанных суб'ектаў гаспадарання

**Са жніўня па кастрычнік месяц інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях праведзены праверкі ўзроўню пажарнай бяспекі адзінаццаці суб'ектаў. Праводзіліся як планавыя, так і кантрольныя праверкі, у выніку якіх былі выяўлены цэлы шэраг парушэнняў, па выніках якіх кіраўнікі былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.**

Так, пры праверцы Прыходу сабора Нараджэння Найсвяцейшай Багародзіцы ў г. Глыбокае высветлілася, што: у будынку адсутнічае аўтаматычная пажарная сігналізацыя; царква не ў поўным аб'ёме забяспечана першаснымі сродкамі пажаратушэння; не арганізавана сістэма навучання патрабавання пажарнай бяспекі; не распрацаваны план эвакуацыі пры пажары і не пазначаны эвакуацыйныя выйсці; адсутнічаюць самаратавальнікі.

ПГУП "Капрызбуд" – асоба, адказная за пажарную бяспеку, не прайшла падрыхтоўку па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; не прызначана асоба адказная за электрагаспадарку; не праведзены замер супраціву ізаляцыі правадоў і кабеляў; у складскіх памяшканнях адсутнічаюць абмежавальныя лініі, якія пазначаюць праходы і ўчасткі захоўвання; адсутнічае план размяшчэння матэрыялаў і рэчываў; на дзвярах складскіх памяшканняў адсутнічаюць паказальнікі катэгорыі па выбухапажарнай і пажарнай небяспецы. Частка аналагічных парушэнняў выяўлена і пры праверцы ПГУП "Капрызторг".

Крама "Чысцюля" ІП Дайлідзёнак – асоба, адказная за пажарную бяспеку, не прайшла падрыхтоўку па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; прадавец не забяспечаны самавыратавальнікам; не праведзены замер супраціву ізаляцыі правадоў і кабеляў; адсутнічаюць знакі пажарнай бяспекі; ужываюцца не працаздольныя першасныя сродкі пажаратушэння.

Фотацэнтр па вул. Леніна ІП Касевіч – асоба, адказная за пажарную бяспеку, не прайшла падрыхтоўку па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму. Астатнія недахопы былі аператыўна ўхілены падчас праведзення праверкі. Аналагічны недахоп выявіўся і пры праверцы ІП Локцевай (крама "Арт").

ААТ "Глыбоцкі камбікормавы завод" – праверяўся кантрольна, гэта значыць, праверялася ступень выканання папярэдняга прадпісання. Падчас праверкі было ўстаноўлена, што з прапанаваных раней 24 мерапрыемстваў было выканана 16 (67%) мерапрыемстваў.

ААТ "Глыбоцкі аграсэрвіс" – па выніках кантрольнай праверкі было ўстаноўлена, што засталіся па-ранейшаму не выкананымі парадку 15 мерапрыемстваў.

Таксама варта адзначыць і станоўчыя вынікі, пры праведзенні кантрольных праверак сярэдніх школ №1 і №2 у г. Глыбокае і ЗТАА "Рн-Захад" былі напісаны даведкі, гэта значыць, папярэднія прадпісанні былі выкананы ў поўным аб'ёме.

*Інспекцыя нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага РАНС.*

# Беларуская чыгунка ўнесла карэкціроўкі ў расклад руху міжнародных цягнікоў у сувязі з пераходам Украіны і краін ЕС на зімовы час

**У сувязі з пераходам у ноч з 24 на 25 кастрычніка суседніх краін на зімовы час Беларуская чыгунка сумесна з адміністрацыямі чыгунак Украіны, Літвы, Латвіі і Польшчы загадзя правяла карэкціроўку раскладу руху міжнародных цягнікоў, паведамілі БелаПАН у прэс-службе чыгункі.**

Напрыклад, цягнік №86 Мінск–Кіеў, які цяпер адпраўляецца са сталіцы Беларусі ў 21.55 і прыбывае ў Кіеў у 7.51, з 25 кастрычніка будзе адпраўляцца з Мінска ў 22.42, а прыбываць у Кіеў у 7.48. Назад з пераходам на зімовы час цягнік будзе адпраўляцца ў 21.19 (цяпер адпраўляецца ў 22.27), час прыбыцця ў сталіцу Беларусі застанецца без зменаў – 8.38.

Час адпраўлення з Мінска цягніка №805 Мінск –Вільнюс пасля пераходу на зімовы час застанецца без змяненняў – 8.40, але прыбываць у Вільнюс састаў будзе на гадзіну раней – у 10.10 (цяпер – у 11.10). Назад цягнік №806 Вільнюс–Мінск будзе адпраўляцца ў 18.14 (цяпер – у 19.14), а час прыбыцця ў сталіцу Беларусі застанецца без змяненняў – 21.44.

Пасля 25 кастрычніка таксама зменіцца расклад руху цягніка № 87 Мінск–Рыга: замест 21.28 састаў будзе адпраўляцца з Мінска ў 22.35 (час прыбыцця ў Рыгу застанецца ранейшым – 9.30); назад цягнік №88 будзе адпраўляцца з Рыгі па-ранейшаму ў 18.35, але прыбываць у сталіцу Беларусі ён будзе ў 7.46 (цяпер – у 6.45).

Цягнік №115 Мінск–Варшава, які адпраўляецца з Мінска ў 20.45 і прыбывае на станцыю Варшава-Заходняя ў 5.40, пасля пераходу на зімовы час будзе адпраўляцца з Мінска ў 21.45 (час прыбыцця застанецца без змяненняў). Цягнік №116 Варшава–Мінск будзе адпраўляцца са станцыі Варшава-Заходняя па ранейшым раскладзе ў 21.01 і прыбываць у Мінск у 9.20 (цяпер – у 7.58).

Пасля пераходу на зімовы час таксама зменіцца час адпраўлення і прыбыцця цягнікоў міжнародных зносін, што ідуць транзітам па тэрыторыі Беларусі ў краіны Заходняй Еўропы і назад. Акрамя таго, у сувязі са змяненнямі ў графіку руху міжнародных цягнікоў скарэктаваны і расклад некаторых цягнікоў рэгіянальных і міжрэгіянальных ліній, якія курсіруюць па тэрыторыі Беларусі.

Падрабязную інфармацыю пра расклад міжнародных цягнікоў, цягнікоў рэгіянальных і міжрэгіянальных ліній можна атрымаць на сайце Беларускай чыгункі www.rw.by, а таксама ў чыгуначных касах і па тэлефонах службаў даведак.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# У Докшыцкім раёне згарэлі мужчына і жанчына

**25 кастрычніка адбыўся пажар рубленага драўлянага дома ў вёсцы Бераснёўка Докшыцкага раёна, загінулі два чалавекі.**

Да моманту, калі на выклік прыбылі пажарнікі, назіралася адкрытае гарэнне жылога дома і адбылося абвальванне даху. Пасля таго, як агонь быў патушаны, пад пластом будаўнічых канструкцый, якія абваліліся, выратавальнікі выявілі целы 57-гадовай гаспадыні і яе 51-гадовага сужыцеля.



Па словах суседзяў, напярэдадні пажару гаспадыня атрымала пенсію і знаходзілася ў нецвярозым стане. У выніку пажару ў хаце знішчаны дах, часткова столевае перакрыцце, пашкоджаны сцены, маёмасць.

Папярэдняя прычына пажару – неасцярожнае абыходжанне з агнём пры курэнні загінулых, паведамляе прэс-служба МНС.



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 2 лістапада



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.05**Клуб редакторов.
**10.45** **«20 лет без любви»**
**11.00** 90 секунд.
**11.40** Ретродрама **«Я тебя обожаю...»**
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.35«Один на всех»**. 1-я и 2-я серии.
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.50** **«Один на всех»** (Россия). 3-я и 4-я серии.
**16.00** 90 секунд.
**17.40** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00** Мелодрама **«20 лет без любви»**
**21.00** Панорама.
**21.45** **«След»**
**23.15** Зона Х.
**23.35** Новости.
**23.50** День спорта.
**00.05** Криминальная мелодрама **«Расскажи мне обо мне»**



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.05** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчёт». «Дети Коминтерна. Спасённые в Беларуси».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** «Хроника Минского гетто-2. За честь и свободу».
**23.15** Фильм **«Квинтет»**.
**01.15** Ночные новости.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** «Орел и Решка. Шопинг».
**10.05** Телебарометр.
**10.40** Приключенческий анимационный сериал **«Друзья ангелов»** (Италия).
**11.10** Азбука вкуса.
**11.55** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**12.55** Иронический детектив **«Метод Фрейда»** (Россия).
**15.00** Романтическая комедия **«27 свадеб»** (США).
**17.00** Перезагрузка.
**17.55** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**19.05** **«Не родись красивой»**
**21.05** Телебарометр.
**21.10** «Экстрасенсы-детективы».
**22.05** КЕНО.
**22.10** **«Кости»** (США).
**23.05** Репортер.
**23.55** **«Призраки»** Заключ. серия.
**00.50** **«Всемогущие Джонсоны»**



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.25** «Большой завтрак».
**10.05** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Знай наших!».
**14.25** «Такова судьба».
**15.10** «Другая страна». «От А до Я - Австралия».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Самые шокирующие гипотезы»: «Кто пьет, а кто лечится?».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Неделя спорта».
**23.30** «Кино»: **«Давние любовники»**. Франция, 2009г.
**01.15** «Последнее пророчество святой Матроны». Документальный спецпроект.



**07.00** ПраСвет
**07.35** Зона «Свабоды»
**08.10** Людскія справы. Выбарчае выданне
**08.45** Два на два
**09.15** Дзеці Гітлера, д/ф
**10.15** Загадкі беларускай гісторыі. Таямніцы Крэва
**10.30** Мова нанова. Грошы
**10.50** Эксперт
**11.20** ПраСвет
**11.55** Зона «Свабоды»
**12.30** Невядомая Беларусь. Дзеці ксяндза Шаплевіча, д/ф
**13.00** Горад роспачы, д/ф
**13.55** Кінаклуб. «Дараванне крыві»
**14.05** **Дараванне крыві**, м/ф
**15.55** Сведкі. 1988
**16.10** **Mad Men. Утрапёныя IV**, серыял
**16.55** Горад роспачы, д/ф
**17.50** Мова нанова. Грошы
**18.10** Над Нёмнам
**18.30** Студыя «Белсат»
**18.55** Людскія справы
**19.30** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.40** Асабісты капітал
**22.05** Зоры не спяць
**22.35** Кінаклуб. «Дараванне крыві»
**22.45** **Дараванне крыві**, м/ф
**00.40** Студыя «Белсат»

## АЎТОРАК, 3 лістапада




**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Детективный сериал **«След»** (Россия).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Мелодрама **«20 лет без любви»** (Россия).
**12.00** Новости.
**12.10** Комедийная мелодрама **«Любовь - не картошка»** (Россия).
**13.00** 90 секунд.
**13.10** День в большом городе.
**14.00** Семейная сага **«Сделано в СССР»** (Россия).
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Детективный сериал **«Черные кошки»** (Россия).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Сериал **«Семейные мелодрамы-6»** (Украина).
**17.40** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Сфера интересов.
**19.40** Зона Х.
**20.00** Криминальная мелодрама **«Доброе имя»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** Специальный репортаж.
**22.00** Детективный сериал **«След»** (Россия).
**23.30** Зона Х.
**23.50** Сфера интересов.
**00.10** Новости.
**00.25** День спорта.
**00.40** Детективный сериал **«Черные кошки»** (Россия).




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** «Жить здорово!».
**10.25** «Контрольная закупка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.05** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Сериал **«Папины дочки»**.
**18.50** «Пусть говорят».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Многосерийный фильм **«Палач»**.
**23.00** Фильм **«Кин-дза-дза!»**.
**01.20** Ночные новости.




**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** «Орел и Решка. На краю света».
**10.10** «Экстрасенсы-детективы».
**11.05** «Понять и обезвредить».
**12.05** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**13.05** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**14.00** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**15.55** «Орел и Решка. На краю света».
**17.00** «Пин_код».
**17.55** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**19.05** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**21.05** Телебарометр.
**21.10** «Экстрасенсы-детективы».
**22.05** Спортлото 6 из 49. КЕНО.
**22.45** Футбол. Лига Чемпионов УЕФА. Манчестер Юнайтед Англия - ЦСКА (Россия).
**00.45** Футбол. Лига Чемпионов УЕФА. Обзор игрового дня.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро».



**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Кино»: **«Мэверик»**. США, 1994г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Наше дело».
**14.05** «Знай наших!».
**14.45** **«Боец. Рождение легенды»**. Сериал.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Центральный регион».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Документальный проект»: «Зеленый Солярис».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Территория заблуждений с Игорем Прокопенко».
**22.00** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Простые вопросы».
**23.20** «Автопанорама».
**23.40** **«Боец. Рождение легенды»**. Сериал.
**01.20** «Хранители тонких миров».




**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Людскія справы
**08.00** Студыя «Белсат»
**10.10** Асабісты капітал
**10.35** Зоры не спяць
**11.05** **Ціхі хаос**, м/ф
**13.00** Студыя «Белсат»
**13.30** Людскія справы
**14.00** Студыя «Белсат»
**16.15** Асабісты капітал
**16.40** **Ратаўнікі**, серыял
**17.25** Эксперт
**18.00** Відзьмо-невідзьмо
**18.30** Студыя «Белсат»
**19.00** Рэпартэр
**19.30** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.40** Два на два
**22.15** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж
**22.35** Горад роспачы, д/ф
**23.30** Дзеці Гітлера
**00.25** Студыя «Белсат»



## СЕРАДА, 4 лістапада




**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Детективный сериал **«След»** (Россия).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Криминальная мелодрама **«Доброе имя»** (Россия).
**12.00** Новости.
**12.10** Комедийная мелодрама **«Любовь - не картошка»** (Россия).
**13.00** 90 секунд.
**13.10** День в большом городе.
**14.00** Семейная сага **«Сделано в СССР»** (Россия).
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Детективный сериал **«Черные кошки»** (Россия).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Сериал **«Семейные мелодрамы-6»** (Украина).
**17.40** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Сфера интересов.
**19.40** Зона Х.
**20.00** Криминальная мелодрама **«Доброе имя»** (Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальное интервью.
**22.00** Детективный сериал **«След»** (Россия).
**23.20** Зона Х.
**23.50** Сфера интересов.
**00.10** Новости.
**00.25** День спорта.
**00.40** **«Черные кошки»** (Россия).




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Детектив **«Трактир на Пятницкой»**.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Фильм **«Дело было в Пенькове»**.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Фильм **«Полосатый рейс»**.
**14.40** «Клуб Веселых и Находчивых». Встреча выпускников-2015.
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Клуб Веселых и Находчивых». Встреча выпускников-2015.
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Сериал **«Папины дочки»**.
**18.50** «Пусть говорят».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Многосерийный фильм **«Палач»**.
**23.00** Комедия **«Ослепленный желаниями»**.
**00.45** Ночные новости.




**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** «Орел и Решка. На краю света».
**10.05** «Экстрасенсы-детективы».
**11.15** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**12.10** Криминальный детектив **«Мария Верн: Пропавший мальчик»** (Швеция).
**13.50** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**15.50** «Орел и Решка. На краю света».
**17.00** «Пин_код».
**17.55** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**19.05** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**21.05** Телебарометр.
**21.10** «Экстрасенсы-детективы».
**22.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**22.45** Футбол. Лига Чемпионов УЕФА. Барселона (Испания) – БАТЭ (Беларусь).
**00.45** Футбол. Лига Чемпионов УЕФА. Обзор игрового дня.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Кино»: **«Квартет»**. Великобритания, 2012г.
**10.10** «Дальние родственники».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Мои прекрасные...».
**14.45** **«Боец. Рождение легенды»**. Сериал.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Минск и минчане».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Документальный проект»: «Крылатая раса».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Кино»: **«Исключение из правил»**. Россия, 2012г.
**22.00** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Простые вопросы».
**23.20** **«Боец. Рождение легенды»**. Сериал.
**01.00** «Секретные территории».




**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Рэпартэр
**07.50** Студыя «Белсат»
**10.05** Два на два
**10.35** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж
**10.55** Горад роспачы, д/ф
**11.50** Над Нёмнам
**12.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**12.35** Мова нанова. Грошы
**12.55** Студыя «Белсат»
**13.25** Рэпартэр
**13.55** Студыя «Белсат»
**16.05** Два на два
**16.40** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж
**17.00** Горад роспачы, д/ф
**17.55** Зоры не спяць
**18.30** Студыя «Белсат»
**18.55** Асабісты капітал
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.30** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.40** Маю права
**22.05** 54 %
**22.25** Людскія справы
**23.00** Эксперт
**23.35** **Парадокс**, серыял
**00.20** Студыя «Белсат»

## ЧАЦВЕР, 5 лістапада




**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Детективный сериал **«След»** (Россия).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Криминальная мелодрама **«Доброе имя» (**Россия).
**12.00** Новости.
**12.10** Сериал **«Семейные мелодрамы-6»** (Украина).
**13.00** 90 секунд.
**13.10** День в большом городе.
**14.00** Семейная сага **«Сделано в СССР»** (Россия).
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Остросюжетная драма **«Зоя»** (Россия).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Сериал **«Семейные мелодрамы-6»** (Украина).
**17.40** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Сфера интересов.
**19.40** Зона Х.
**20.00** Криминальная мелодрама **«Доброе имя» (**Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** Специальный репортаж.
**22.00** Детективный сериал **«След»** (Россия).
**23.30** Зона Х.
**23.50** Сфера интересов.
**00.10** Новости.
**00.25** День спорта.
**00.40** Остросюжетная драма **«Зоя»** (Россия).




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** «Неслужебный роман Алисы Фрейндлих».
**10.05** Комедия **«Служебный роман»**.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** Комедия **«Служебный роман»**.
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.05** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Сериал **«Папины дочки»**.
**18.50** «Пусть говорят».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Надо разобраться».
**21.30** Многосерийный фильм **«Палач»**.
**23.25** Фильм **«Большой год»**.
**01.10** Ночные новости.




**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** «Орел и Решка. На краю света».
**10.05** «Экстрасенсы-детективы».
**11.20** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**12.20** Криминальный детектив **«Мария Верн: Тень из прошлого»** Швеция.
**13.55** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**15.55** «Орел и Решка. На краю света».
**17.00** «Пин_код».
**17.55** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**19.05** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**21.05** Телебарометр.
**21.10** «Экстрасенсы-детективы».
**22.05** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**22.15** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**23.10** «Пин_код».
**00.00** «Понаехали». Реалити-шоу.
**01.00** Комедийное фэнтези **«Всемогущие Джонсоны»** (Новая Зеландия).




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Кино»: **«Исключение из правил»**. Россия, 2012г.
**10.10** «Добро пожаловаться».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Мои прекрасные...».
**14.45** **«Боец. Рождение легенды»**. Сериал.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Культурная столица». Брест.
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Документальный проект»: «Под знаком Скорпиона».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Кино»: **«Абсолютная власть»**. США, 1997г.
**22.20** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** «Простые вопросы».
**23.20** «Автопанорама».
**23.40** **«Боец. Рождение легенды»**. Сериал.
**01.20** «Тайны мира с Анной Чапман».




**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Асабісты капітал
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**08.00** Студыя «Белсат»
**10.10** Маю права
**10.35** 54 %
**10.55** **Парадокс**, серыял
**11.40** Людскія справы
**12.15** Студыя «Белсат»
**12.45** Асабісты капітал
**13.05** Гісторыя пад знакам Пагоні
**13.15** Студыя «Белсат»
**15.30** Маю права
**15.50** 54 %
**16.15** **Парадокс**, серыял
**17.00** Невядомая Беларусь. Дзеці ксяндза Шаплевіча, д/ф
**17.30** Людскія справы
**18.05** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж
**18.30** Студыя «Белсат»
**18.55** Два на два
**19.30** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб’ектыў
**21.40** Рэпартэр
**22.10** Відзьмо-невідзьмо
**22.35** Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду, д/ф
**23.35** Студыя «Белсат»

## ПЯТНІЦА, 6 лістапада




**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Детективный сериал **«След»** (Россия).
**10.00** 90 секунд.
**11.00** Криминальная мелодрама **«Доброе имя» (**Россия).
**12.00** Новости.
**12.10** Сериал **«Семейные мелодрамы-6»** (Украина).
**13.00** 90 секунд.
**13.10** День в большом городе.
**14.00** Семейная сага **«Сделано в СССР»** (Россия) **15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Остросюжетная драма **«Зоя»** (Россия).
**16.00** 90 секунд.
**16.40** Сериал **«Семейные мелодрамы-6»** (Украина).
**17.40** Сделано в Беларуси.
**18.00** «Terra incognita». Беларусь неизвестная
**-18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Зона Х. Итоги недели.
**20.00** Криминальная мелодрама **«Доброе имя» (**Россия).
**21.00** Панорама.
**21.45** Наши.
**21.55** Мелодрама **«Там, где есть счастье для меня»** (Россия).
**23.45** Новости.
**00.00** День спорта.
**00.15** Остросюжетная драма **«Зоя»** (Россия).




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** «Жить здорово!».
**10.25** «Контрольная закупка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.55** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.05** «Учиться жить».
**14.35** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** Фильм **«Человек с бульвара Капуцинов»**.
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Жди меня. Беларусь».
**18.55** **«Поле чудес»**.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Мой бизнес».
**23.00** Триллер: **«Прежде чем я усну»**.
**00.35** «Легенды Live». «Дуэты легенд».
**01.15** Ночные новости.




**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** «Орел и Решка. На краю света».
**10.05** «Экстрасенсы-детективы».
**11.05** Копейка в копейку.
**11.40** Вот это да!
**12.10** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**13.05** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**14.00** Мелодраматический сериал **«Не родись красивой»** (Россия).
**15.55** «Орел и Решка. На краю света».
**17.00** «Пин_код».
**17.55** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**18.55** Приключенческий фильм-фэнтези **«Перси Джексон и Похитители молний»** (Великобритания).
**21.05** Телебарометр.
**21.10** «Битва экстрасенсов. Третья мировая».
**22.00** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**23.25** «Пин_код».
**00.10** Репортер.
**00.55** Комедийное фэнтези **«Всемогущие Джонсоны»** (Новая Зеландия).




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Кино»: **«Абсолютная власть»**. США, 1997г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Мои прекрасные...».
**14.45** **«Холостяки»**. Сериал.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «М и Ж».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Такова судьба».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ спорт».
**20.15** «Кино»: **«Мошенники»**. Германия - США, 2002г.
**22.00** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ спорт».
**23.00** **«Холостяки»**. Сериал.
**00.25** «Большая игра». Покер-дуэль.
**01.10** «Кино»: **«Слепой»**. Франция, 2012г.




**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Два на два
**08.00** Студыя «Белсат»
**10.10** Рэпартэр
**10.35** Відзьмо-невідзьмо
**11.05** Тбілісі ад золку да змяркання, д/ф
**11.50** Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду, д/ф
**12.45** Студыя «Белсат»
**13.15** Два на два
**13.45** Студыя «Белсат»
**16.00** Рэпартэр
**16.25** Тбілісі ад золку да змяркання, д/ф
**17.10** Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду, д/ф
**18.05** 54 %
**18.30** Студыя «Белсат»
**18.55** Маю права
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.30** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб’ектыў
**21.40** ПраСвет
**22.20** Абязгучаныя, д/ф
**23.50** **Бубачкі**, м/ф
**01.25** Студыя «Белсат»

## СУБОТА, 7 лістапада



**07.15** Існасць.
**07.40** Слово Митрополита Павла на Димитриевскую Родительскую субботу.
**07.50** Мелодрама **«Богатая Маша»**
**09.00** Новости.
**09.40**Трансформация.
**10.15** «50 рецептов первого». Кулинарное шоу.
**10.50** Дача.
**11.30** Выход есть.
**12.00** Новости.
**12.10** «Здоровье». Ток-шоу.
**12.50** «Terra incognita». Беларусь неизвестная.
**13.25** «Национальная безопасность». Док.фильм.
**14.25** «Лістапад-2015».Телеверсия открытия XXII Минского международного кинофестиваля.
**15.00** Новости.
**15.15** Краіна.
**15.45** **«Нарочно не придумаешь»**
**17.45** **«Снайпер. Последний выстрел»**
**21.00** Панорама.
**21.40** **«Забытый»**
**01.25** День спорта.



**07.00** «Субботнее утро».
**08.00**, **09.00** Наши новости.
**09.05** **«Смешарики. Новые приключения»**.
**09.25** «Здоровье».
**10.30** «Смак».
**11.10** «Идеальный ремонт».
**12.10** «Умницы и умники».
**12.55** Реалити-шоу «Автобус».
**13.45** Фильм **«Берегите мужчин!»**.
**15.15** «Следствие покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** Концерт Пелагеи«Вишневый сад».
**18.20** «Клуб Веселых и Находчивых». Высшая лига.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Сегодня вечером».
**22.35** **«Милый друг»**.
**00.20** Детектив **«Леди в цементе»**.



**07.00** **«Друзья ангелов»**
**07.45** Научное шоу профессора Открывашкина.
**08.15** **«Моя прекрасная няня»** (Россия).
**10.20** Азбука вкуса.
**10.55** Анимационный сериал **«Приключения Дино»** (Франция).
**11.10** Приключенческий анимационный сериал **«Друзья ангелов»** (Италия).
**12.25** Телебарометр.
**12.30** Копейка в копейку.
**13.10** **«Кто в доме хозяин?»** (Россия). 1-я – 4 я серии.
**15.00** «Орел и Решка. Шопинг».
**16.00**«**Неуправляемый»**
**17.50** «Битва экстрасенсов. Третья мировая».
**19.50** «Понаехали». Реалити-шоу.
**21.05** Телебарометр.
**21.10** Фантастическая мелодрама **«Чужестранка»**
**22.00** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**23.35** Хочу в телевизор!
**23.40** «Орел и Решка. Неизведанная Европа».
**00.40** Комедийное фэнтези **«Всемогущие Джонсоны»**



**06.50** «Кино»: **«Миколка-паровоз»**. СССР, 1956г.
**08.20** «Тайны мира с Анной Чапман».
**10.05** «Секретные территории».
**11.00** «Минск и минчане».
**11.35** «Легенды СССР».
**12.15** «Кино»: **«Достояние республики»**. СССР, 1971 г. 1-я серия.
**13.30** «24 часа».
**13.40** **«Достояние республики»**.2-я с.
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**15.50**«Большой город».
**16.30** «24 часа».
**16.40** «Наше дело».
**16.55** «Дорогая передача».
**17.05**«**Государственная граница»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ спорт».
**20.10** **«Дневник памяти»**.
**22.20** «Контакт государственной важности».
**00.30** **«Достояние республики»**.



**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Маю правa
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**08.00** Студыя «Белсат»
**10.10** **Прыгоды і паходы**,спазнаваўчы мультсерыял. Вада
**10.20** **Цюхця, што ты за стварэнне?!**, мультсерыял
**10.25** **Між намі, буслам**і, мультсерыял
**10.50** **Машына зменаў**,тэлесерыял
**11.20** Канцэрт N. R. M.. ч. 2
**12.20** Два на два
**12.55** Асабісты капітал
**13.15** Кукабака – вязень сумлення, рэпартаж
**13.30** **Бубачкі**, м/ф
**15.00** ПраСвет
**15.40** ГУЛаг схаваны ў памяці, д/ф
**16.30** Рэпартэр
**16.55** Беларусы ў Польшчы
**17.15** **Mad Men. Утрапёныя IV**
**18.00** **Ратаўнікі**
**18.45** Загадкі беларускай гісторыі. Гарадзенская Троя
**19.00** Гітлер, Сталін і я, д/ф, 2001 г., Чэхія
**19.55** Зона «Свабоды»
**20.30** Мова нанова. Зоркі
**21.00** Аб'ектыў
**21.10** Форум.
**21.55** Невядомая Беларусь. Лінія Сталіна на дзіцячай далоні, д/ф, 2015 г., Беларусь
**23.00** **Цырк «Каламбія»**
**00.54** Відзьмо-невідзьмо
**01.20** Зоры не спяць
**01.55** Студыя «Белсат»
**02.10** ПраСвет

## НЯДЗЕЛЯ, 8 лістапада



**07.25** Мелодрама **«Там, где есть счастье для меня»** (Россия).
**09.00** Новости.
**09.10** «Арсенал».
**09.40**Истории ремонта.
**10.20** «50 рецептов первого».
**11.00** XXL WOMAN TV. Женский журнал.
**11.40** Навіны надвор'я.
**12.00** Новости.
**12.10** Новости.
**12.35** Коробка передач.
**13.10** Зона Х. Итоги недели.
**13.45** Тайны следствия.
**14.15** Вокруг планеты.
**15.00** Новости.
**15.15** Твой город.
**15.30** **«Москва-Лопушки»**
**17.20**«**Три товарища»**.1-я - 4-я с.
**21.00** Главный эфир.
**21.55** Клуб редакторов.
**22.35** Навіны надвор'я.
**22.55** **«Нарочно не придумаешь»**
**00.55** **«Как выйти замуж за миллионера-2»** (Россия)



**07.00** «Воскресное утро».
**08.00**, **09.00** Наши новости.
**09.05** «Воскресная проповедь» (с субтитрами).
**09.20** **«Смешарики. ПИН-код»**.
**09.35** «Непутевые заметки».
**09.55** «Пока все дома».
**10.40** «Фазенда».
**11.15** «Брэйн-ринг».
**12.15** «Теория заговора».
**13.15** «Олег Меньшиков. «Время, когда ты можешь все!».
**14.10** Фильм **«Покровские ворота»**.
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** Фильм **«Покровские ворота»**.
**17.00** «Точь-в-точь».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Голос».
**23.20** **«Метод»**.



**07.00** Приключенческий анимационный сериал **«Друзья ангелов»** Италия.
**08.15** **«Кто в доме хозяин?»**
**10.10** «Орел и Решка. Неизведанная Европа».
**11.15** Телебарометр.
**11.20** Ваше лото.
**11.50** Пятерочка.
**12.25** «Понять и обезвредить».
**13.00** **«Моя прекрасная няня»** (Россия).
**15.05**Приключенческий фильм-фэнтези **«Перси Джексон и Похитители молний»**
**17.10**«**Неуправляемый»**
**19.15** Суперлото.
**20.05** Телебарометр.
**20.40** Кипяток.
**21.10** **«Метод Фрейда 2»**
**22.00** Спортлото 5 из 36, КЕНО.
**23.20** Хочу в телевизор!
**23.25** Фантастическая мелодрама **«Чужестранка»** США Великобритания).



**06.30** **«Афромосквич»**. Комедийный сериал.
**07.20** «Добро пожаловаться».
**07.40** «Автопанорама».
**08.10** «Кино»: **«Сирано де Бержерак»**. Германия - США, 1950г.
**10.10** «Чистая работа».
**11.00** «Большой завтрак».
**11.40** **«Солдаты 6»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.40** «Кино»: **«Битлз. На помощь!»**.
**15.25** «Водить по-русски».
**16.00** «Центральный регион».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Автопанорама».
**17.20** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**19.30** «Неделя».
**20.25** «Кино»: **«Плохая мамочка»**. США - Нидерланды - Великобритания, 2011г.
**22.10** Документальный спецпроект «Еда будущего».
**23.05** «Кино»: **«Битлз. На помощь!»**.
**00.35** «Док.проект»: «Амазонки Древней Руси», «Грибные пришельцы».



**07.00** Студыя «Белсат»
**07.10** ПраСвет
**07.45** **Прыгоды і паходы**, спазнаваўчы мультсерыял. Вада
**07.55** **Цюхця, што ты за стварэнне?!**, мультсерыял
**08.00** **Між намі, буслам**і, мультсерыял
**08.25** Зона «Свабоды»
**09.05** Маю правa
**09.25** Беларусы ў Польшчы
**09.40** Два на два
**10.10** Рэпартэр
**10.35** Загадкі беларускай гісторыі. Гарадзенская Троя
**10.50** **Прыгоды і паходы**, спазнаваўчы мультсерыял. Як людзі навучыліся чытаць і пісаць
**11.00** **Цюхця, што ты за стварэнне?!**, мультсерыял
**11.05** **Букаландыя**, мультсерыял
**11.30** **Машына зменаў**, тэлесерыял
**12.00** Мова нанова. Зоркі
**12.25** ПраСвет
**13.00** Гітлер, Сталін і я, д/ф
**14.00** Відзьмо-невідзьмо
**14.25** Зона «Свабоды»
**15.00** Форум
**15.45** **Цырк «Каламбія»**, драма
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**17.55** Кіеў ад золку да змяркання, д/ф
**18.40** Невядомая Беларусь. Лінія Сталіна на дзіцячай далоні, д/ф
**19.45** Сведкі. «Мартыралог»
**20.00** Эксперт
**20.30** **Людзі з мячыкамі**, м/ф
**21.25** Кінаклуб. «Анжэль і Тані»
**21.40** Анжэль і Тані, м/ф
**23.10** **Mad Men. Утрапёныя IV**
**00.00** ГУЛаг схаваны ў памяці, д/ф

**На працягу тыдня ў праграме магчымыя змены. Перадрук тэлепраграмы забаронены!**



**Кліменцій Кожан,**
*краязнаўца, м. Германавічы.*

# Ванда Лявіцкая

## Да 120-годдзя з дня нараджэння

**Нядаўна споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Ванды Антонаўны Лявіцкай (па мужу Лёсік), беларускай пісьменніцы, дачкі Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага). Нарадзілася яна 25 верасня 1895 года ў Радашковічах. Бацька працаваў там памочнікам аптэкара.**

Калі Вандзе споўнілася 6 гадоў, бацька навучыў яе чытаць па-польску.

У Вільні ў матчынай сяброўкі Ванда рыхтавалася паступіць у Марыінскую гімназію, але з гэтага нічога не выйшла, і яна вярнулася дадому. Чытала польскія кнігі, якія былі ў бацькоўскай бібліятэцы. Маці выхоўвала дачку на патрыятычных польскіх вершах і песнях. Але, калі пачала выходзіць "Наша Ніва", бацька павярнуў усё навучанне і выхаванне на родны, беларускі шлях.

Вучылася Ванда Лявіцкая ў Радашковічах у вышэйшым пачатковым вучылішчы. Спачатку гэта было вучылішча толькі для хлопцаў, а ў 1912 годзе па просьбе бацькоў дазволілі прымаць і дзяўчат. Паступіла 7 дзяўчынак у другі клас. Скончылі вучылішча ў 1914 годзе. Пасля сканчэння вучылішча Ванда Лявіцкая рыхтавалася да экзаменаў на вясковую настаўніцу, але гэтаму перашкодзілі каталіцкае веравызнанне і пачатак Першай сусветнай вайны.

У 1915 годзе Ванда Лявіцкая працавала ў Мінску ў Беларускай кнігарні бясплатна – ранiцамі, а пасля – у Мінскай гарадской бібліятэцы імя А.С.Пушкіна, куды яе рэкамендавала Алаіза Пашкевіч(Цётка).

Летам 1916 года Ванда Лявіцкая жыла ў бацькавым доме ў Карпілаўцы і працавала як апякунка і настаўніца дзяцей з Беларускага прытулку, якія на лета былі вывезены ў Карпілаўку. Увосень 1916 года разам з дзецьмі прытулку выехала ў Ратамку, дзе з імі працавала да вясны 1917 года.

Летам 1917 года Ванда Лявіцкая вучылася на настаўніцкіх курсах, а калі скончыла іх, была прызначана ў Першую беларускую школу ў Мінску (на быўшым Віленскім рынку). Там была руская школа, якая працавала ў першую, а беларуская – у другую змену.

У 1917 годзе яна стала жонкай палітыка, вучонага і пісьменніка Язэпа Лёсіка. У 1919 годзе свой грамадзянскі шлюб Ванда і Язэп Лёсікі асвяцілі ў мінскім касцёле Святога Роха.

Жыццё Ванды і Язэпа ў той час было нялёгкім. Вось як аб гэтым мне расказвала віленская пісьменніца Людвіка Антонаўна Войцік (Зоська Верас): "Дзе светлай памяці Ванда Лявіцкая жыла ў 1915 годзе, я не помню. Але ўжо з 1916 года жыла разам са сваім бацькам на вуліцы Захараўскай, 24, у пакоі пры Беларускай кнігарні - кватэра вельмі невыгодная: пакой вялікі, халодны, з цэментнай падлогай, сцены памаляваны на цёмна-шэры колер, стол просты, пару крэслаў, два ложкі.

Абеды Ванда варыла на прымусе. Пад восень у гэтай халоднай кватэры нельга было вытрымаць. Бацька перабраўся да знаёмых, а Ванда начавала на Маскоўскай у нядаўна адчыненай беларускай сталоўцы. Там быў пакойчык, дзе стаў стол і мяккая канапа… Гэта быў мой "кабінет", дзе я выдавала квіты на абеды, прымала грошы, справаздачы ад кухарак… Ад 8-9-й гадзіны вечара да 9-й раніцы Ванда мела пакой для сябе. Але, калі сталоўку "Беларускую хатку" перанеслі на Маскоўскі завулак, а на Захараўскай, 18 адчынілі рэдакцыю "Вольнай Беларусі" ў першым вялікім пакоі, то даўгі, дзе раней мы жылі з мамай, заняла Ванда. Нарэшце, яна мела добры, выгодны, цёплы пакой. А як пажаніліся з Язэпам Лёсікам, дык нейкі час жылі там абое. Пасля перабраліся на Старажоўскую, у дом Русецкіх".



Крывенка Анатоль Змітравіч, 1942, Мінск.
**Ванда Лявіцкая-Лёсікава.**
Дачка пісьменніка Ядвігіна Ш. і жонка Язэпа Лёсіка.
Дзеяч нацыяльна-дэмакратычнага Адраджэння
ДВП, алей, 40х30 см. 1993 г.

Калі ў 1930-х гадах Язэпа Лёсіка арыштавалі па справе "Саюза вызвалення Беларусі", Ванда Лявіцкая працавала пасудамыйкай, разносчыцай тэлеграм, а як толькі стала магчымым, паехала да высланага мужа. З 1933 года яна дзяліла з ім ссылку. Жыла ў Ліпецку, потым у пасёлку Татарка Стаўрапольскага краю.

Ванда Лявіцкая з Язэпам Лёсікам мела траіх дзяцей: сына Юрыя (28 жніўня 1919 года, Карпілаўка – 9 чэрвеня 1997 года), які быў інжынерам-энергетыкам, жыў у Армавіры; дачок Луцыю (нарадзілася 8 сакавіка 1921 года), якая настаўнічала ў Ліпецку; Алесю (нарадзілася 22 лютага 1923 года), якая настаўнічала ў пасёлку Татарка. Абедзве дачкі скончылі педагагічны тэхнікум.

Хросным бацькам дзяцей Ванды, Луцы і Алесі, быў Янка Купала.

У 1992 годзе Луцыя і Алеся прыязджалі на месца колішняга радавога маёнтка Карпілаўкі. Сын Юры на Беларусь не вяртаўся.

У 1937 годзе Ванда Лявіцкая страціла мужа. Яна жыла ў дачок, там, дзе была больш патрэбная: то ў Луцыі ў Мінску, то ў Алесі ў пасёлку Татарка.

Ванда Лявіцкая займалася і літаратурнай творчасцю. 21 мая 1909 года яна апублікавала ў газеце "Наша Ніва" свой дэбютны абразок "Бацькаўшчына". Апавяданні і вершы друкаваліся ў газетах "Беларусь" і "Вольная Беларусь". У 1933 годзе напісала ўспаміны пра бацьку. Займалася перакладамі на беларускую мову твораў М.Канапніцкай, В. Чайчанкі і іншых.

Ванда Лявіцкая мела слабае здароўе. Яна доўга і цяжка хварэла (астма, склероз, рэўматызм).

Улетку 1959 года яна прыязджала ў Мінск, дзе яе прыняла Уладзіслава Луцэвіч на Омскім завулку, 7.

Памёрла Ванда Лявіцкая 8 снежня 1968 года ў пасёлку Татарка. Там яна і пахаваная. Дзеці паставілі помнік, разам з унукамі прыязджалі на яе магілу.

■ **Уладзімір Скрабатун**

# Ці задаволіць незадаволеных новы выгляд філіяла "Белаграпрамбанка"?

Памятаецца, на месцы цяперашняга будынка філіяла "Белаграпрамбанка", у пачатку 1990-х, была ашчадная каса. Згадваю і "забягайлаўку" пад назовам "Бульбяная". Тут, у двары, была піўнушка з народным назовам "стаяк". Чаму "стаяк"? Пілі піва стоячы, а не седзячы за сталом...

Затым – гарбачоўская Перабудова, развал СССР. У першыя гады незалежнасці Беларусі на гэтым месцы латвійскія будаўнікі пачалі ўзводзіць будынак філіяла "Белаграпрамбанка". Тое, што пачало вымалёўвацца па ходу будаўніцтва і ў яго канцовым выглядзе – шакавала мяне да глыбіні душы! Ды й не толькі шакавала аўтара гэтых радкоў, прыходзілася падобнае чуць і ад гасцей горада, перадусім ад мінскіх экскурсаводаў.

Не! У аўтара няма ніякіх крытычных заўваг наконт размяшчэння банка на адной з гістарычных плошчаў горада! Стаяць жа банкі, паўсюль, на цэнтральных плошчах і цэнтральных вуліцах іншых гарадоў. Аднак, там няма гістарычнай забудовы. І ў прынцыпе, выгляд будынка докшыцкага філіяла "Беларусбанка" ў стылі хай-тэк не выклікае ніякіх пярэчанняў на фоне пасляваеннай забудовы цэнтра горада.

А вось да глыбоцкага філіяла ёсць толькі пытанне архітэктурнага аблічча. Я разумею, што праектыроўшчык, пасля сканчэння праектавання, запытаў у замоўцы, накшталт таго: "Пекна?". Замоўца адказаў: "Так, пекна! Будуем!" Усё ўзгоднена, якія тут могуць быць прэтэнзіі!

І я скажу: "Пекна!". Толькі будынку з такой архітэктурай лепшае месца – дзесьці на вул. Камуністычнай, альбо ў мікрараёне МКК.



Рэканструкцыя будынка філіяла "Белаграпрамбанка" ў Глыбокім.

Плошча 17 Верасня – гістарычная плошча горада, дзе стаяць два храмы ў стылі "віленскага барока". Гэта значыць, будынак філіяла банка мусіў бы быць у гармоніі з архітэктурай храмаў. Пажадана, каб яго будынак імітаваў адзін з гістарычных стыляў. Ну, не "віленскае барока", а стыль неакласіцызм, напрыклад. Каб у экскурсантаў і гасцей горада ствараласяя ўражанне, што гэты будынак стаіць тут, побач з храмамі, сама менеей сто гадоў!

Годзе, пра што тут дыскутаваць! Ну, не задавальняе выгляд будынка мастакоў, якія заўсёды ва ўсім шукаюць прыгажосць і гармонію, не задавальняе гісторыкаў і краязнаўцаў... Прайшло два дзесяцігоддзі. Усе звыкліся. А бальшыня народу, нават, і не пераймалася тым – ёсць гармонія, ці яе няма! І так добра!

І тут, нечакана, у нашыя дні, пачалася рэканструкцыя будынка філіяла банка! Гляну ў аўтар гэтых радкоў на новы сілуэт будынка і – ніяк не змог пазбавіцца ад асацыяцыі з выглядам вядомага берлінскага рэйхстага. Ну, так! Дадаць бы яшчэ па цэнтру – купалок і 4-калонны порцік – стоадсоткавая асацыяцыя!

Пачакайце! Калі паглядзець з іншага ракурса, то сілуэт будынка можа нагадваць і сярэднявечны рыцарскі замак. У такім выпадку – можна было б на завяршэннях "вежаў" усталяваць і флюгеры.

Агулам кажучы, пачакаем! Паглядзім, як новы сілуэт банка ўпішацца ў панараму гістарычнай плошчы. Мо ізноў усе незадаволеныя звыкнуцца – а што зробіш, як у той прымаўцы – "дораному каню ў зубы не глядзяць!" Ці, наадварот, зaймеем разынку, якой будзем ганарыцца!

***

Нагадаем нашым чытачам, што будынак філіяла "Белаграпрамбанка" ў Глыбокім знаходзіцца на колішняй вуліцы, якая да 1842 года называлася – Вялікая, гэтак, як і ў нашай некалі Вільні. Сама ж сённяшняя плошча 17 Верасня тады насіла назоў – Рынак (рынак кармелітаў). З гэтага гледзішча, і з улікам двух храмаў, любы новы будынак на гістарычнай плошчы заўсёды будзе выклікаць зацятыя дыскусіі, наконт адпаведнасці яго выгляду дадзенаму гістарычнаму месцу.



Рэйхстаг у Берліне. Пабудаваны ў 1894 г.

